БЕЛАРУСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ МУЗЫКА

# КАСЬЦЕЛЬНЫЯ ПЕСЬНІ

Для зьмешанага хору



# БЕЛАРУСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ МУЗЫКА

*ДЛЯ ЗЬМЕШАНАГА ХОРУ*

БЕЛАРУСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ ГРАМАДА
МУЗЫЧНАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІКОЎ

МЕНСК
1992

# *Прадмова*

***Альлелюя!***
***Сьпявайце Пану песьню новую,***
***хвала яму ў грамадзе сьвятых!***
**(Псальм 149, 1)**

Беларуская каталіцкая музычная культура мае даволі даўнія і трывалыя карані. Разам з заходнеэўрапейскімі музычна-стылёвымі прынцыпамі традыцыі рымскага абраду далі цікавыя і годныя ўвагі вынікі на беларускай нацыянальна-культурнай глебе. Аднак напрацаванае стагодзьдзямі багацьце ці было расьсеяна па сьвеце, ці зьнішчалася, ці забаранялася і зьнікала. Адна са зьяў гэтай культуры — песьні беларускага касьцёлу.

У нашым выданьні сабраныя 63 (тэкстаў 66, тры зь іх — на адну мэлёдыю) песьні. Некаторыя перадрукаваныя адрэдагаванымі, ці бяз зьмен з «Беларускага духоўнага сьпеўніка» (Вільня — Лёндан, 1980-1989 складальнікі А.Клімовіч і Г.Піхура). Мэлёдыі іншых — узятыя са сьпеўніка В.Гожэльнярскага «Касьцельныя песьні» (Петраград, 1917) і дадзеныя тут у нашай апрацоўцы ці проста гарманізацыі. Асноўным матэрыялам стаў збор нотаў, які прапанаваў ксёндз Уладыслаў Чарняўскі: у яго ўваходзяць апрача мэлёдыяў (шмат якія маюць толькі першую страфу) і цэлыя харавыя партытуры, што, магчыма, друкуюца ў гэтым зборніку ўпершыню.

Пад час працы над гарманізацыяй ці апрацоўкай мы імкнуліся раскрыць гарманічныя фарбы, схаваныя ў мэлёдыі, і прытрымліваліся ў гэтым існуючай касьцельнай традыцыі.

Дзеля таго, каб зрабіць поўнай і тэкставую карціну, мы карысталіся таксама рознымі малітоўнікамі, абапіраючыся ў асноўным на «Голас душы» (Рым, 1949).

Зборнік складзены ў адпаведнасьці з каталіцкім календаром — гадавым сьвяточным цыклам. У кожным разьдзеле спачатку йдуць песьні на традыцыйныя мэлёдыі, а потым — арыгінальныя творы.

Песьні на Божае нараджэньне аб'ядноўваюцца агульным радасна-узьнёслым настроем і выконваюцца ў рухавых тэмпах.

Песьні на Вялікі пост напоўненыя пачуцьцямі суму і жалю і распавядаюць пра крыжовыя мукі Збаўцы нашага Езуса Хрыстуса.

Велікодныя песьні абвяшчаюць усеагульную радасьць людзей: Хрыстус з мёртвых устаў — альлелюя!

Эўхарыстычныя песьні выконваюцца на сьвята Божага Цела і на Камунію. Яны ўрачыста выхваляюць найсьвяцейшы сакрамэнт і ахвяру, у якой Езус Хрыстус пад выглядам хлеба і віна ахвяруецца і даецца верным. Гэтыя песьні-гімны павінны гучаць павольна і стрымана.

Песьні ў гонар Найсьвяцейшае Панны Марыі прасякнутыя шчырай ласкаю і любоўю да Божае Маці. Цыкль так званых «песьняў Марыі» найбольшы з усіх сьвяточных цыкляў. Песьні, якія склалі яго, вельмі разнастайныя паводле характару — прывітальныя, гімнічныя, лірычныя, хвалебныя і г.д.

Песьні да Найсьвяцейшага Сэрца Езуса славяць найбольшы скарб наш — Сэрца Езуса. Яны большай часткаю лірычныя.

Розныя песьні. У гэты разьдзел увайшлі песьні, якія адлюстроўваюць шырокую гаму шчырых пачуцьцяў чалавека да Бога: песьні-малітвы, песьнігімны, прынагодныя песьні, а таксама і песьні, якія сьпяваюць перад, падчас і пасьля імшы і г.д.

Перад выкананьнем песьняў мы раім зьвярнуць увагу на літаратурны тэкст. Па-першае, гэта дапаможа адшукаць патрэбны характар выкананьня; па-другое, неабходна зрабіць падтэкстоўку для ўсіх слупкоў, бо могуць зьявіцца ці, наадварот, будуць адмоўленыя лігі: дзе-нідзе прыйдзецца нават выкарыстоўваць драбленьне першапачатковага рытму ў якой-кольвечы са строфаў.

Кіруючыся і мэтаю аднаўленьня каталіцкага харавога руху, які існаваў яшчэ на пачатку XX стагодзьдзя, мы працягваем гэтую працу і прапануем выданьне парафіяльным, самадзейным і прафэсыйным харавым калектывам.

*Уладзімер Неўдах*
*Арганісты касьцёла Св.Тройцы*
Менск, верасень 1992

# 1. Нарадзіўся, нам зьявіўся

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.







Разам з вамі мы з мальбамі
Пасьпяшым туды хутчэй,
Хоць малога, станем Бога
Цешыць песьняю сваей.
Бо ён бедна нарадзіўся,
Ў жалабочку прытуліўся,
Каб нас грэшных ў небе мець.

Станем ў кола і вясёла
Будзем «глёрыя» сьпяваць,
Бо жаданы ёсьць пасланы,
Каб збаўленьне сьвету даць.
Шчыра так яго вітайма
І з анёламі сьпявайма:
«Ўсім спакой тут на зямлі!»

Прывітайма, запытайма:
«Хто ж прычынай гэта быў?
Скуль патрэбна, што аж з неба
Бог на землю сам сступіў?» —
«Міласьць Божа то зрабіла —
Сына з неба падарыла,
Каб у небе мы былі».

«Чаму ж, Божа, жлоб — ня ложа
З сена меў пасьцель сабе?
Быдла грэла — літасьць мела,
А ня людзі для цябе?»
«Грэшнік, злосьці што паддаўся
І, як сена, кволы стаўся,
Праз мяне каб рай здабыў».

У Юдэі без надзеі
Маткі плачуць цэлы век —
Гэрад строгі з дапамогі
Войска дзетак іх пасек.
Недалёка та хвіліна —
Кроў пальецца Бога Сына
За грахі усіх людзей.

Божым Царствам, Валадарствам
Трэба цэлы сьвет назваць.
Дзе ж прычына Бога Сына
Не хацеў ён тут прыняць?
Бо сьвет цэлы грэхам скуты,
Не ахвотны да пакуты,
Крыжам Збаўцу абдарыў.

## 2. Пастушкі спалі

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.

Па-стушкі спа-лі пры яскy ў лу-жо-чку. Глядзь — рассьвятле-ла ў са-му цём-ну ночку.

я - ны чу - юць з му - зы - кай сьпеў гра - ма - ды вя - лі - кай

Я - ны чу - юць сьпеў гра - ма - ды.

а - нё - лаў, а - нё - лаў, а - нё - лаў!

Адзін спусьціўся — самы найясьнейшы,
слухайце, кажа, каторы сьмялейшы,
навіну я вам скажу,
нават мейсца пакажу
Ў Бэтлеі, ў Бэтлеі, ў Бэтлеі.

Бог там радзіўся ў гэту цёмну ночку,
не ў палацы, але ў хлявочку,
у жалабочку каля быдлятка
палажыла яго Матка,
Божаньку, дзетаньку маленьку.

# 3. Вечны родзіцца

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.










Стаенка — Яго палацам!
Пастушкі — Яго сьвітою!
Мерзьне на сене ды плача
са скацінкаю худою!
Не ўзгардзіў сялянскім станам
і прыняў перад панамі!
О, Слова, што Целам стала,
жыві вечна паміж намі!

І з усходу каралі тры
просяць гожа прыняць дары,
кленчучы ды зьняўшы мітры
прад Сусьвету Валадарам, —
дзіцятка усё зьмяшала
з бедных пастушкоў дарамі!
о, Слова, што Целам стала,
жыві вечна паміж намі!

Пашкадуй, дзіцятка Божа,
нашую зямельку мілу!
Адвярні ад нас бязбожжа,
дай Любові, Веры сілу.
Дай надзею вытрывалу
з сьвятымі ўсімі дарамі!
О, Слова, што Целам стала,
жыві вечна паміж намі!

# 4. У начную ціш

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.

У нач-ну-ю ціш ля-цішь го-лас звыш.
Па-сту-шкі ўстань-це, вунь на не-ба глянь-це!
Што за яс-насьць, за пра-мень-ні ў бе-лым а-нё-лы а-дзень-ні ра-да-сна пя-юць!

Абвяшчаем Вам — Бог радзіўся там!
Ў Бэтлей сьпяшайце, Збаўцу прывітайце.
Ляжыць ў жлобе Ён на сене,
у пялёнках, без адзеньня ад зімна дрыжыць.

Пастушкі хутчэй пабеглі ў Бэтлей,
у стайні, ня ў хаце шукаюць дзіцяці.
Як анёлы расказалі,
знайшлі Бога, прывіталі і далі паклон.

Цэлы Цябе сьвет чакаў столькі лет!
Ня знаў дух прарочa таго, што Ты ўночы
народзішся, агалосіш,
праз анёлаў нас запросіш табе даць паклон.

Упаўшы на твар, даём Табе дар:
з нашых сэрц балючых, з нашых сьлёз кіпучых.
А хоць бедны, не адкінеш,
Ты яго напэўна прымеш, паблаславіш.

Езу, за Твой труд дзякуем мы тут,
дары засылаем, за то хай дазнаем
Твае ласкі і апекі
тут на сьвеце і на векі ў небе назаўжды.

# 5. Паказалась зь неба

**В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні**










Пастушкі на полі са страху памлелі,
як на гэты цуды у поўнач глядзелі
тады анёл ім зьявіўся,
мовіў: «Бог вам нарадзіўся»

Прыпеў: Gloria! Gloria! Gloria!
In exelsis Deo!

Найсьвяцейша Панна стала Маткай Бога,
што адкупіць людзкасьць з моцы духа злога.
У стайні і нарадзіла,
і на сенца палажыла.

Прыпеў.

І пабеглі дзеці з вялікай ахвотай,
гралі і сьпявалі Богу стройнай нотай,
свае сэрцы радавалі,
што Езуса аглядалі.

Прыпеў.

І мы засьпявайма Пану Богу хвалу,
што для нас радзіўся і цярпеў нямала,
выслаўляйма пана Бога
ў Сьвятой Тройцы адзінога.

Прыпеў.

# 6. Анёл сказаў пастушкам

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.

А - нёл ска - заў па - стуш - кам: „На - ра - дзіў - ся Хрыс - тус вам!"

„А дзе - дзе?" — „У Бэ - тле - і Да - ві - да - вым, у па - ка - лень - ні ю - да - вым, ад Пан - ны Ма - ры - і!"

Гэта хочучы спазнаць,
вестку шчасну аглядаць,
пабеглі да Бэтлею з ахвотай,
знайшлі ў яськлях дзіцятка,
Марыю з Язэпам.

Нарадзіны — дзівы з дзіваў!
Выслаўляці мала слоў:
Панна Божага сына насіла,
Нарадзіла, не кранула
цноты дзявочай.

Хвалы вечнай бог сапупіў,
як просты сябе зьніжыў,
палацаў багатых, мураваных
ня меў збудаваных
Бог усяго стварэньня.

Ужо збылося тое ўсё,
што пад фігурай было:
Арона ласка пучок пусьціла,
прад аркай расьцьвіцела
і плады прынесла.

Слухайце ж Бога Айца,
як аб Ім Ён нам сказаў:
гэта Сын Мой адзіны, каханы,
у раі вам абяцаны,
слухайце Яго вы!

Богу чэсьць і хвала будзь,
што ніколі не замруць,
як Айцу, так Ягонаму Сыну,
разам Сьвятому Духу, —
адзінаму ў Тройцы!

## 7. Неба і зямля

Мэлёдыя традыцыйная

Партытура і тэкст з Беларускага духоўнага сьпеўніку.

Не - ба і зям - ля, не - ба і зямля ра - да - сна сьпя - ва - юць.

А - нё - лы сьвету, А - нё - лы сьвету дзі - ва аб - вя - шча - юць.

Хры - стус на - ра - дзіў - ся, Бог аб' - я - віў - ся, А - нё - лы сьпя - ва - юць,

Пас - туш - кі і - гра - юць, дзі - ва, дзі - ва аб - вя - шча - юць.

У Бэтлееме, у Бэтлееме
вясёла навіна:
чыстая Панна, чыстая Панна
нарадзіла Сына.

Прыпеў:
Хрыстус нарадзіўся,
Бог аб'явіўся,
анёлы сьпяваюць,
пастушкі іграюць,
дзіва, дзіва абвяшчаюць!

І мы дзіцятку, і мы дзіцятку
Богу паклон дайма,
хвалу на вышынях, хвалу на вышынях
яму засьпявайма!

Прыпеў.

# 8. Зямля і неба.

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.










Сёньня ў Бэтлеем, сёньня ў Бэтлеем
дзіўная навіна:
сьвятая Панна, сьвятая Панна
нарадзіла сына!

Прыпеў

Маці Марыя, маці Марыя
дзіцятка пястуе
і стары Ёзэф, і стары Ёзэф
Езуса гадуе.

Прыпеў

І каралі тры, і каралі тры
з Усходу прыбылі,
Богу дзіцяці, Богу дзіцяці
ахвяру зложылі.

Прыпеў

Бліснула Сонца, бліснула Сонца,
Сонца праўды вечнай,
Надзея грэшным, Надзея грэшным
шчасьлівасьці вечнай.

Прыпеў

Прыходзьце кожны, прыходзьце кожны
прывітаць Езуса,
з чыстай душою, з чыстай душою
выслаўляць Хрыстуса.

Прыпеў

Будзь жа вітаны і праслаўлёны,
міласэрны Божа!
Праз тваю волю — гора, нядоля
хай жа нас ня зможа.

Прыпеў

# 9. Нова радасьць стала

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст народны

Но - ва радасьць ста - ла, што ішчэ ня бы - ва - ла:

Над бэт - ле - ей зор - ка яс - на сьве - ту за - зьзя - ла.

Пастушкі з ягняткам
перад тым дзіцяткам
упадаюць на калені
для яго ўслаўленьня

Дзе Хрыстус радзіўся,
з Панны ўцелавіўся, —
як чалавек, пялёнкамі
бедна спавіўся.

І мы ўраз сьпяваем,
Хрыста праслаўляем,
нараджанага з Марыі
пакорна ўпрашаем.

Просім цябе, Божа,
просім, як можам:
дай нам ў небе жыцьце шчасна,
на зямлі прыгожа.

# 10. Нова радасьць

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст народны



Пастушкі з малым ягняткам
перад тым дзіцяткам
упадаюць на калені
для яго ўслаўленьня, ўслаўленьня.

Дзе Хрыстус сам нарадзіўся,
з Панны ўцелавіўся, —
як чалавек, пялёнкамі
бедна так спавіўся, спавіўся.

І мы ўраз сёньня сьпявайма,
Хрыста праслаўляйма,
народжанага з Марыі
пакорна ўпрашайма, упрашайма.

Цябе просім, мілы Божа,
просім, як можам:
дай нам ў небе жыцьце шчасна
на зямлі прыгожа, прыгожа.

# 11. А ў сьвеце нам

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Калядоўшчыкі







У небе зоркі засьвяціліся, Сьвяты вечар,
прыйшлі мудрацы, пакланіліся, Сьвяты вечар!

Каб забіць дзіця, Ірад сам пайшоў, Сьвяты вечар,
ды да ясьляў шлях ніяк не знайшоў, Сьвяты вечар!

Узрасло дзіцятка — пан Хрыстус Бог, Сьвяты вечар!
Праўды сьвет знайсьці ён нам дапамог, сьвяты вечар!

# 12. А ўчора зь вячора

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст народны




А ўчора з вячора (2 разы) з нябеснага двора,
з нябеснага двора (2 разы) прыйшла к нам навіна:
прыйшла к нам навіна (2 разы) — нарадзіўся нам Сына.
Нарадзіўся нам Сына (2 разы) ад Панны Марыі!

# 13. Учора з вячора

Тэкст: Калядоўшчыкі

Мэлёдыя традыцыйная

Зора засьвяціла — сьвет узьвесяліла.
Людзі прыбягайце — Хрыста прывітайце.
Сьвет узьвесяліўся, Хрыстус нарадзіўся!
Хрыста нараджэньне — людзям на збаўленьне.
Здаровы бывайце, нам каляду дайце,
Здаровы сьвяткуйце, дайце, не шкадуйце!

# 15. Нарадзіўся

Тэкст: Голас душы.

На - ра-дзіў-ся Хрыс-тус Бог, на - ра - дзіў - ся, у збаў-лень-ні

нам па - мог, ра-дуй-ма - ся! У бед-най ад - ры - не,

дзе мейсца жы - ві - не нам, нам на - ра - дзіў - ся!

Не пагардзіў Бог нас, радуймася,
найніжэйшы людзкі стан, радуймася.
Каб вестку даць з неба,
як жыці нам трэба
Ён нам нарадзіўся.

# 16. Бог нарадзіўся

Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага

1. Бог на-ра-дзіў-ся, хто ж аб тым мог зна-ці
Е-зус на і-мя, а Ма-ры-я ма-ці

Тут а-нё-лы гор-нюц-ца, Бо-га Сы-на ба-яц-ца,
Вол ста-іць тра-сец-ца ўвесь, а а-сёл су-муе днесь.

Ўсе з у-це-хі ска-чуць, Бо-га ў це-ле ба-чуць
У-се, у-се ска-чуць, Бо-га, Бо-га ба-чуць.

Тут жа, тут жа, тут жа, тут жа, тут.

Язэп старэнькі калыша дзіцятка
Люляй жа, люляй, маё галубятка

# 17. Езу, Божа міласэрны

**В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні**

Праз жыдоў быў затрыманы,
да судзьдзяў як злодзей гнаны,
вінавачаны фальшыва,
суджаны несправядліва.

Здратавалі Тваё цела,
што ня была часткі цэлай,
ранамі ўсяго пакрылі,
Найсьвяцейшу кроў пралілі.

Пасьля вострую карону
на твае ўзлажылі скроні,
каралём на сьмех прыбралі,
зьдзекваліся, як жадалі.

На зямлю пад крыжам падаў
і на ім прыбіць сябе даў,
пацярпеўшы страшны мукі,
аддаў душу Богу ў рукі.

Будзь жа за ўсе пахвалёны,
ў міласэрдзі несканчоны,
Езу, Божа, хай сардэчна
хваляць Цябе ў небе вечна.

# 18. Сьвяты Крыжу

Тэкст: Голас душы.

Мэлёдыя традыцыйная




Дрэва цьвёрдае, зьмякчыся,
аж да зямлі прыхіліся!
Спусьці найсьвяцейша Цела,
яно з болю ўжо самлела.
Пазволь Яму адпачыці,
на зямлю скарэй сступіці.

Цябе выбраў Бог адвеку
на збаўленьне чалавеку:
з Цябе ласка людзям дана,
душа наша ўзмацавана,
крывёй Божай ўся абмыта,
што з Хрыстовых ран праліта.

Як ў халоднай ляжаў стайні,
для яго ня была тайна:
каб сьвет грэшны адкупіці,
трэба кроў сваю праліці,
каб зьвяры паклон давалі,
а тут людзі катавалі.

Нечувана міласьць гэта,
каб ісьці на крыж для сьвета!
Хтож так будзе міласьцівы,
такі добры, літасьцівы?
Сам Хрыстус Бог гэта справіў —
нас ад пекла Крыжам збавіў.

Чаму тваё сэрца горда,
як бы камень, глуха-цьвёрда?
Над Езусам ты ня плачаш,
хоць Яго на Крыжы бачыш:
На ахвяру Богам даны,
за цябе ўкрыжаваны.

Матка з жалем паглядала
і той час успамінала:
як малога спавівала,
прытуляла, цалавала.
а цяпер Ягона цела,
ад ран сіня, пачарнела.

Ня быў жаль такі й ня будзе,
дзе жылі, жыць будуць людзі!
Які Маці смутак мела,
на Езуса як глядзела:
«Сіратою астаюся,
дзе цяпер я прытулюся?

Аднаго Сыночка знала,
яго з неба атрымала,
цяпер яго забіраюць —
мяне бедну пакідаюць.
З жалю рвецца маё сэрца,
хоча выскачыць, здаецца.

Каб ты быў, сыночак, ніжай,
да мяне каб трохі бліжай —
я галоўку бы падпёрла,
сьлёзы й кроў тваю абцёрла,
але крыж твой так высокі —
ад мяне сынок далёкі.

Ўзялі сына, зорку ясну:
мяне кінулі няшчасну —
над усё яго любіла,
цяпер мне жыцьцё няміла.
Ах, мой Божа! Табе веру —
не карай жа нас праз меру.»

А хто Богу верна служыць,
Божу Матку шчыра любіць,
хай пад крыжам стане з ею,
ў ей сваю кладзе надзею.
Праз твае, дзева, цярпеньне,
упрасі для нас збаўленьне.

## 19. На крыж прыбіты

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.










Зранена страшна Божае цела,
зьліта крывёю ў ранах вісела.
Ах! Ах! То грэх наш праклятый
мучыць Бога так заўзята.

Коле карона голаў балюча,
вусны спаліла смага пякуча.
Ах! Ах! За маё зграшэньне
Езус млее ад цярпеньня.

Пад крыжам маці плача, канае,
матчына сэрца жаль разрывае.
Ах! Ах! Злосьць мая ліхая
страшна Богу адплачае.

Буду ўжо лепшым! Дай помач, Божа,
грэх, вораг люты, болей ня зможа.
Ах! Ах! Годзе ўжо грашыці,
з ласкай Божай хачу жыці.

І з Магдаленай пакутаваці,
за ўсе грашэньні адшкадаваці.
Ах! Ах! Зжалься нада мною,
Божа, дай мне жыць з табою.

З грэхам сягоньня пачну змагацца
і з жалем буду я спавядацца.
Ах! Ах! Прабач мне, мой Божа!
Болей грэх мяне ня зможа.

# 20. Ойча, Божа Ўсемагутны

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст пераклаў кс.Ул.Чарняўскі




Езу, Хрысьце найсьвяцейшы,
Збаўца наш найдаражэйшы,
за нас з міласьці даешся,
Богу ахвярай стаешся.

Глянь жа на крыж, чалавеча,
як Збаўцу грэх твой калеча,
як гордасьць твая ліхая
Езусу голаў зраняе.

Яму ногі прабіваюць,
бо твае закон ламаюць.
Будзь ты болей асьцярожны,
бо твой грэх Бога трывожыў.

Езусу ссьмягаюць губы,
каб цябе збавіць ад згубы,
бо нас вечная чакала,
каб кроў Збаўцы не збаўляла.

Збаўцы мукі Бог прымае,
грахі нашы адпускае,
але цярпець і нам трэба,
бо крыж дарогай ў неба.

Добры Езу спагадлівы,
Ў муках за нас цярплівы,
ціхі мо ягнё стаўся,
каб толькі Бог адпускаўся.

Чалавек жа той грашлівы
тым больш мае быць цярплівы,
калі Бог кары спускае
і нас мукаю карае.

Маці пад крыжам стаяла,
нас за дзетак атрымала,
Нас мае ў сваёй ахове,
абы мы былі гатовы.

Даючы кроў у адплату,
Хрыстус стаўся нашым братам.
Мы Хрыста любіць павінны —
ён цярпеў за нас, нявінны.

Просім жа яго зжаленьня
і грахоў ўсіх адпушчэньня,
каб спагадным быў на судзе,
калі сьмерць па нас заблудзіць.

# 21. Пабожным сэрцам

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.










У садзе аліўным, паўшы на калені —
Айца маліў ён сярод ночнай цені.
Юда ж пацалункам злачынцам даў у рукі
Хрыста на мукі.

Як івы дзікія кінуліс паганцы,
зьвязалі рукі дарагому Збаўцу.
Вучні Хрыстуса ўсе паўцякалі,
як на суд гналі.

Гадзіны першай стаяў прад Пілатам,
бічаваць срогім прыказаў ён катам!
Яны да слупа Збаўцу прывязалі
і катавалі.

З церняў карону калючу зрабілі,
пасьля Хрыстусу на скроні ўзлажылі.
Перад ім з наругай на калені палі —
каралём звалі.

Трэцяй гадзіны закрычалі срога:
крыжовай сьмерцяй памрэць хай Сын Бога!
Пасьля да крыжа нялюдзка прыбілі —
воцтам паілі.

Канае Езус, душу дае Богу,
сьцямнела сонца, сьвет чуе трывогу,
зямля дрыжэла, скалы затрашчэлі —
Бога жалелі.

З атхланьняў душы, шчасных, як анелі
узяў з сабою, каб больш не цярпелі,
і целы зьмёршых з магіл паўставалі,
іх аглядалі.

Мікодым, Ёзэф у Пілата сьмела
просяць дазволу забраць Хрыста цела.
Пілат прашкодаў ніякіх ня робіць,
каб схаваць у гробе.

Вучні Хрыстуса ўзяліс да работы,
каб Збаўцы цела схаваць да суботы.
Як зьнялі з крыжа, стала сьлязьмі маці
раны змываці.

А змыўшы раны, з сумам анямелым
бальзамам зьліўшы, у палотну белу,
як звычай кажа, Збаўцу ахілілі —
у гроб палажылі.

Верны народзе, што Бога баісься
за свае віны сьлязамі залійся,
Хрысту падзяку пашлі і маленьне
за адкупленьне.

# 23. Гародзе аліўны

Мэлёдыя традыцыйная

З нотаў кс. Ул. Чарняўскага

Га - ро - дзе А - ліў - ны, я - кі ты мне Рдзіў - Рны

Як - раз сум - ны ва - чч! Е - зус — Бог мой пла - ча.

Пот - кры - ва - вы пра - лі - ва - е, боль і страх я - го сьці - ска - е.

Ах, Е - зус стаў мне - ці ... Быў ўжо бля - зкі Рсьмер - Рці.

# 25. Радуймася, хрысьціяне

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні

Ра-дуй-ма-ся, хрысьці-я-не, бо Хрысту-са з гро-бу ўстань-не.
Да-ра-ва-ло нам збаў-лень-не, Аль-ле-лю-я, аль-ле-лю-я, аль-ле-лю-я.

І ўбачылі яснога,
ён адняў моц духа злога,
ім сказаў ісьці да Бога.
Альлелюя! (3 разы)

Апосталы сабраліся,
што былі ўжо разышліся,
па Хрыстусу смуцячыся.
Альлелюя!

Патрыярхі рады сталі,
што ў атхлонях прабывалі,
як Збаўцу свайго даждалі.
Альлелюя!

З гробу камень адваліўся,
Хрыстус з мёртвых абудзіўся
і Марыі аб'явіўся.
Альлелюя!

Мы ўсе разам засьпявайма,
з мёртвых ўстаньне размышляйма,
з грэху ўстаць пастанаўляйма.
Альлелюя!

Хрысьце, праз з гробу паўстаньне
дай нам грахоў дараваньне,
вечнае душам збаўленьне.
Альлелюя!

## 25а. Вясёлы дзень

Вясёлы дзень для нас настаў,
якога ўвесь сьвет жадаў;
сёньня Хрыстус з грobу ўстаў!
Альлелюя! (3 разы)

Уладар нябесны к нам прыбыў,
як сьвет на сонейку зацьвіў,
па сьмерці з намі зноў зажыў!
Альлелюя!

Пякельну нетру зваяваў,
ўсякіх злыдняў пакараў,
а грэшным ласку даруваў.
Альлелюя!

Да трох дзён ў пекле ён правёў,
там пацяшаў сьвятых айцоў,
пасьля з сабою іх павёў.
Альлелюя!

А тыя, што да аднаго,
як Збаўцу ўбачылі свайго,
загаварылі да яго:
Альлелюя!

Вітай, жаданы нам, вітай!
О Хрысьце, нас не пакідай,
з пякельнай моцы выбаўляй.
Альлелюя!

Якую ж радасьць мелі ў цьме,
Як Збаўцу ўбачылі ў сябе,
Якога здаўна ждалі ўсе.
Альлелюя!

На трэці дзень сам з гробу ўстаў,
пячацяў нат не пачапаў;
на стражаў моцны страх напаў.
Альлелюя!

А як Хрыстус з магілы ўстаў,
сваіх апосталаў вітаў,
да Маці анёлаў паслаў.
Альлелюя!

Анёлы верныя мае!
К Паненцы йдзіце вы хутчэй,
к найсьвятшай Матачцы маей,
Альлелюя!

Вітайце Панну ад мяне,
і засьпявайце для Яе:
вітае Твой Сынок Цябе!
Альлелюя!

Пасьля ў яснасьці такой
да Маткі зьблізіўся сьвятой
і прывітаньне кажа Ей:
Альлелюя!

Будзь поўна радасьці ўся,
Матуля родная мая,
жалоба скончылась твая!
Альлелюя!

Вітай жа, Езу мой жывы,
сынок мой любы, залаты,
пацеха ўсякая душы!
Альлелюя!

Ах вельмі весела ўжо мне!
Жывога ўбачыўшы цябе,
як новым сьвет стаў для мяне.
Альлелюя!

Так весела з ім гаварыла,
цалуючы раны Хрыста,
з вялікім шчасьцем адышла.
Альлелюя!

О, Хрысьце, што ўстаў у тры дні,
грахі нам нашы адпусьці,
душы збаўленьне прынясі!
Альлелюя!

# 26. Альлелюя!

муз. А.Хлёндоўскага — Тэкст Ул.Казлоўшчыка

Аль - ле - лю - я! Бог ус - крос! Сьмер - ці веч - най даў у - дар

З за - ня - па - ду сьвет уз - нёс і прый - шоў к нам на аў - тар

Аль - ле - лю - я, Аль - ле - лю - я, Аль - ле - лю - я, Аль - ле -

Аль - ле - лю - я, Аль - ле - лю - я, Аль - ле -

Аль - ле - лю - я, Аль - ле - лю - я.

лю - я, Аль - ле - лю - я.

# 28. На Божае цела

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні

У - весь сьвет зя - мля й мо - ра, і ўсё жыво - е ў пра - сто - ры

[illegible] міласьць Богу, сьпяем я - му песьню гэту, песьню гэ - ту.

Біце нізка паклоны
прад Хрыстусам утаеным.
У гэтай крышынцы хлеба
ёсьць праўдзівы Бог, Пан неба.

Што быў чалавекам стаўся,
дзеля нас на мукі даўся
і сканаў на дрэве крыжа,
каб да неба нас прыбліжыць.

А цяпер для нас бясконца
сьвеціць з Гостыі, як сонца,
стаўшыся нам жыцьця хлебам,
грэшнікаў яднае з небам.

Дык адчуйце нашы сэрцы,
моц мілосьці Бога Створцы
і давайце яму хвалу,
якой годзен, дасканалы.

І анёлы, хэрубімы
і сьвятыя сэрафімы
прад трон Божы упадайце,
яго міласьць выхваляйце.

А мы ніц прад ім падаем,
міласэрдзяў упрашаем,
каб жыцьцё мець з Богам Панам
на вякі вечныя. Амэн.

# 29. Чэсьць Твая, хвала

В.Гожэльвярскі. Касьцёльныя песьні

1. Чэсьць Твая, хвала,
вы — шні наш Пане,
ня-хай век ве-кам не пе-ра-ста-не.

Табе сёньня мы — люд хрышчоны —
б'ём грамадою ў песьні паклоны,
Твайму валадарству шлючы
за гэты дар Твой ўсемагучы.

Цела Тваё, што на крыж прыбілі,
і прасьвятую кроў, што пралілі.
На сьвет прыйшоў у людзкай пастаці,
многа нягоды воліў дазнаці.

Што на нягодных нас ды ўспомніў
і ў Сакрамэнце Сябе ўпрытомніў.
Дзеля нас, грэшных, кінуўшы неба,
скрыўся пад відам простага хлеба

Ўрэшце з любові да нас вялікай
даўся на мукі варожасьці дзікай.
А йдучы ў неба да вечнай хвалы
нам тут пакінуў дар гэты сталы.

Што ў Сакрамэнце бачыце гэтым
з сэрцам пацехай шчырай сагрэтым.
Табе пяём мы з чыстай душою,
нема падаем перад табою.
Дай жа нам ласкі, ўсямоцны Божа,
бо чалавеку хто дапаможа?

# 30. О Марыя, Маці Бога

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні

1. О, Ма-ры-я, Ма-ці Бо-га, Ты ня тар-дзіш а ні-ко-га
хто ў ня-до-лі ці, ў па-трэ-бе зьвер-нец-ца прад трон твой ў не-бе.

О, Ма-ры-я, ма-лі Сы-на, Ты на-дзе-я на-ша а-дзі-на.

Дык і я, грэшнік нягодны,
як сын да матулі роднай,
да Цябе, Маці ласкава,
шлю пакорнай просьбы слова.

Прыпеў:
О Марыя, малі Сына,
ты — надзея наша адзіна.

Сьцеражы ад злых прыгодаў,
Ад душы і цела шкодаў,
Голад, мор, войны, пажары —
адвярні ўсе Божы кары

Прыпеў.

А па сьмерці няхай Бога,
ў Сьвятой Тройцы адзінога,
і Цябе, нябесна Пані,
славім ў небе з анёламі.

Прыпеў:
О Марыя, малі Сына
ты надзея наша адзіна.

# 31. Уладарка ласкі

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.










З кожнай, о Маці, к Табе старонкі
дзетанькі жаль нясуць скаргі горкай —
не пагарджай мальбою пакутнай,
адхілі кары просьбай магутнай!

Да каго ж бо, Маці, да каго мы пойдзем,
помач, спагаду у каго знойдзем —
разьвяжы путы грэху няволі,
прысьпяшы канец нашай нядолі.

Лекарка хворых, Маці любові,
жаданьняў грэшных аслаб аковы,
так бо нам цяжка з імі змагацца,
цяжка самім цнатлівымі стацца.

Старожка веры, Мацерка Божа,
і з Беларусі выжань бязбожжа,
Богу гасанну хай стройна, громка
сьпявае вольна родна старонка!

Калі ж апошняя прыйдзе часіна,
апошняя з вока сплыве сьлязіна,
сваімі матчынымі рукамі
закрый нам вочы навекі. Амэн.

# 32. Вітай, Марыя

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні







Ты, што карміла сьвету збаўленьне,
інам, як маці, дай пажыўленьне,
ад голаду нас няхай укрые
твая апека — вітай, Марыя!

Чысьцейша Панна, бяз жаднай сказы,
усьцеражы нас хвароб, заразы,
Ты — найстрайнейша райска лілея,
ачысьць паветра — вітай, Марыя!

Цяжкі жаль мела над сьмерцяй Сына.
Праз тваё сьлёзы, Маці адзіна,
хай нам хвіліны сьмерці цяжкія
спакойны будуць — вітай, Марыя!

Поўна пакоры, згодна, ціхая,
дай людзям згоду ў нашым краі;
між нас хай згінуць сваркі ліхія,
крый нас ад войнаў — вітай, Марыя!

О, найсьвяцейша, бяз цені грэху,
у кожным часе будзь нам пацехай;
хай нас апека твая закрые
ад гневу Бога — вітай, Марыя!

Ўладарка наша, між хэрубімаў,
пачуй маленьне, неба Княгіня,
што йдзе прад стопы твае сьвятыя,
за нас маліся — вітай, Марыя!

# 33. Вітай, Марыя!

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Бог з намі

Ві-тай, Ма-ры-я, Хры-сто-ва Ма-ці!
Па-зволь нам грэ-шным Та-бе чэсьць да-ці.
Пры-мі і про-сьбы на-шы ні-зкі-я, за нас ма-лі-ся, ві-тай, Ма-ры-я!

Ты, што карміла сьвету збаўленьне,
інам, як маці, дай пажыўленьне,
ад голаду нас няхай укрые
твая апека — вітай, Марыя!

Цяжкі жаль мела над сьмерцяй Сына.
Праз твае сьлёзы, Маці адзіна,
хай нам хвіліны сьмерці цяжкія
спакойны будуць — вітай, Марыя!

Поўна пакоры, згодна, ціхая,
дай людзям згоду ў нашым краі;
між нас хай згінуць сваркі ліхія,
крый нас ад войнаў — вітай, Марыя!

Ўладарка наша, між хэрубімаў,
пачуй маленьне, неба Княгіня,
што йдзе прад стопы твае сьвятыя,
за нас маліся — вітай, Марыя!

# 34. Матачка Божая

Мэлёдыя кс.арх. Ф.Абрантовіча

Тэкст: Голас душы.

1. Ма-тач-ка Бо-жа-я, Ма-тач-ка До-бра-я, бед-ны-я дзе-ці, мы клі-чам Ця-бе,

Песь-няй па-кор-на-ю, мольбы скла-да-ю-чы, сэр-цы сва-е ад-да-ем мы Та-бе.

Вылеч ты сэрца нам, раны глыбокія,
Міласьцяй чыстаю нас запалі,
Каб хвала Божая, ня жальба вечная,
Ў неба ляцела, ляцела з зямлі.

Нас, сваіх дзетачак, што ў цябе просяцца,
Матачка добрая, ты пашкадуй;
ласкай аджыўчаю Бога прадвечнага,
Матачка Божая, нас абдаруй.

Сьветам нябесным жа галовы цёмныя,
Матачка Божая, ты асьвяці,
каб мы пазналі ўсе мудрасьць адвечную,
Богу служылі тут верна ў жыцьці.

Дай жа нам, дзетачкам, дарогу простую,
сьмерці хвіліну шчасьлівую дай.
Вядзі нас, Матачка, зоранька ясная,
у хвалу вечну, у цудны рай.

# 35. Дазволь, Маці

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.










Я, нягодны, песьняй роднай цябе вітаю,
і з бяздоньня шлю я сёньня мольбы да раю.
Ты мяне не забывай, памажы і ласку дай.
Там, на небе, у патрэбе абаронай будзь.

О цудоўна, ласкі поўна, чыстая лілея,
міласьціва, літасьціва, грэшных надзея.
Вечна ў небе анёлы Цябе хваляць, вясёлы.
Я жадаю хваліць у раю з імі навекі.

Найясьнейша, найсьвяцейша, сьвету, неба цуд,
Ты зрадзіла і карміла Бога-Сына тут.
Ты як зорка прыгожа, на твар глянуць хтож можа,
дзе на троне у кароне хваляй ясьнееш.

Грэхам скуты, я пакутай душу абмыю —
і збалелым сэрцам цэлым прашу Марыю.
Што па сьмерці у раю бачыць Яе жадаю.
Прашу гожа, дай мне, Божа, на векі вечны.

# 36. Ад зарніцы

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.

Ад зар - ні - цы хай з зям - лі - цы ля - ціць сла - ва Ма - ры - і,
Кожна сьвя - ты чэсьці Бар - га - та - ат - пад - не - ба хай ... - е.

Табе го - жа Ма - ці ... - жа, хва - лу ду - шы хай ... - юць.

Бо - жу ласку поў - на бля - ску па - ма - ты нам а - ся - ... !

Між жанчынаў ты адзіна
ласкі поўна ў Бога,
кветка майска, зорка райска,
асьвячай нам дарогу.

Прыпеў.

Чыста Панна, каралева,
красой неба зачаруй,
нашы дзеткі — зямлі кветкі —
цнатлівасьцю абдаруй!

Прыпеў.

# 37. Вострабрамска Маці Божа

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні







Ўся Цябе Русь славіць Бела
і Літва і Польшча цэла,
бо ты, Маці, міласьціва,
сваім дзеткам дабратліва.

Ў краі нашым Ты ў чэсьці,
нясеш з неба добры весьці!
Шчасьце для нашага краю
даеш нам ад Бога з раю!

Іх у смутку пацяшаеш,
слабых, хворых папраўляеш,
і хто толькі к табе прыйдзе,
то бяз радасьці ня выйдзе.

Ты так кожнаму дагодзіш,
што надзею ў сэрцы зродзіш;
праз цябе усе правіны
даруюцца ў Бога-Сына!

# 38. Песьня да Ружанцовай Маці Божай

Мэлёдыя традыцыйная — Тэкст пераклалі М.Знавасёлак і М.Янішкевіч







Маці, ты прыйшла з адным жаданьнем
ратаваць людзей ад пакараньня.
Прыпеў.

Хто ад гневу Божага ўратуе?
Хто гаротных грэшных пашкадуе?

Прыпеў.

Праз Бэрнардку ты дала ружанец,
грэшным ён для абароны шанец.

Прыпеў.

Таямніцы ружанца сьвятога
перамогуць моц шатана злога.

Прыпеў.

Няхай сэрца маё трыумфуе:
ад загубы Маці уратуе.

Прыпеў.

# 39. Ты найсьвяцейша

Тэкст Ул.Казлоўшчыка

Муз. А.Мацюка

Ты найсьвяцейша наша Маці, хто табе ў сіле хвалу аддаці! Хто зможа годна песьню сьпяваці, цябе належна тут праслаўляці.

Рэфрэн.

Божая Маці, маці людзей, прымі малітву з нашых грудзей.

# ДА НАЙСЬВЯЦЕЙШАГА СЭРЦА ПАНА ЕЗУСА



# 40. Да найсьвяцейшага Сэрца Езуса

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні

*p*

Е - зу - са сэр - ца, Міласьць га - ра - ча, да ця - бе моль - бы

на - шы ня - сём Хоць мы і вель - мі грэш - ны, ад - нак жа

чэсьць най - глы - бей - шу Та - бе да - ём. Не вы - пус - кай жа Ты з ласкі

нас. Ды будзь ра - тун - кам у кож - ны час. Е - зу - са

сэр - ца — най - большы скарб наш, мей мі - ла - сэр - насьць над на - мі ўсцяж.

Езуса Сэрца, Ты, што за нашы
грахі цяжкія з неба сышло,
за чалавецтва, за мукі страшны —
й сябе дзідай прабіць дало.
Да Цябе шлём мы просьбы свае,
адвярні ад нас кары Тваe!
Езуса Сэрца, найбольшы скарб наш,
май міласэрнасьць над намі ўсьцяж!

Езуса Сэрца смутным да скону
з правінаў сьвету ад роду было,
праз Цябе з неба, з Божага трону,
людзям бязьмерна шчасьце сплыло!
Хто толькі шчыра чаго жадаў,
ўсё праз Божае Сэрца дастаў;
Езуса Сэрца, найбольшы скарб наш,
май міласэрнасьць над намі ўсьцяж!

Езуса Сэрца, Пана на небе,
пануй над намі ў кожнай пары,
няхай пры працы, ў кожнай патрэбе
да Цябе ўзносім сэрца ўгару.
Дзе шчасьце вечна, дзе сьветлы рай,
ах, Божа, туды патрапіць дай!
Езуса Сэрца, найбольшы скарб наш,
май міласэрнасьць над намі ўсьцяж!

Езуса Сэрца, зьлі на нас цноты:
веру, надзею, міласьць к Табе;
хай Богу служым верна, з ахвотай,
і так здабудзем неба сабе.
Абрыдзь нам моцна ўсякі грэх,
бо толькі Боскіх жадаем пацех.
Езуса Сэрца, найбольшы скарб наш,
май міласэрнасьць над намі ўсьцяж!

Езуса Сэрца, будзь Табе хвала
ад ўсяго сьвету роду людзей,
каб яна вечна не занікала,
ды ўсьцяж пашыралась на зямлі ўсей.
Будзь Богу хвала ў Тройцы Сьвятой,
а на зямлі тут — нам супакой.
Езуса Сэрца, найбольшы скарб наш,
Май міласэрнасьць над намі ўсьцяж!

# 41. Песьня ранішняя

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні




Я, што створаны Табою,
злучаны жыцьцём з зямлёю,
ці ж такі нягодны быў бы,
каб цябе ды не хваліў бы!

Ледзь пасьпею падняць вочы
і ўстаць з ложка пасьля ночы,
да Бога ў небе ўздыхаю,
Яму хвалу засылаю.

Шмат, хто ўчора паляглі спаць,
сёньня рана не змаглі ўстаць,
мы яшчэ здаровы ўсталі,
каб моц Божу выхвалялі.

Божа, ў Тройцы непаняты,
Ойча, Сыне, Духу Сьвяты!
Табе хвалу аддаваем,
пасьвяці нас, упрашаем.

# 41а. Песьня пры працы

Міласэрны вечны Божа!
Цябе просім, колькі зможам:
Ты зьвярні ласкавы вочы
на твой бедны люд рабочы.

Дай нам моцну ў Цябе веру,
у жаданьнях дай знаць меру,
ураджай нам дай на полі,
збаў нас, Божа, ад няволі.

Дай нам сілы на змаганьне!
Хай шчасьлівы кожны стане,
адвярні ад нас прыгоды,
захавай ад кожнай шкоды.

Не пакінь жа нас навекі,
Божа, без твае апекі;
выбачай нам нашу слабасьць
і згатуй нябесну радасьць.

Цябе, Ойча, наш Стварыцель,
Сыне Божы, адкупіцель,
Духу пацяшыцель, Божа,
выслаўляем, колькі зможам.

# 42. Песьня вячэрняя

В.Гожэльнарскі. Касьцёльныя песьні







А калі пасьнем у ночы,
май над намі Твае вочы,
сьцеражы ад злой прыгоды,
барані ад кожнай шкоды.

Усе нашы дзённы справы
прымі міла, Божа правы,
пакіруй нам на збаўленьне
ды на Тваё выслаўленьне

Хай здаровы са сну ўстанем
і служыць Табе зноў станем:
душой, сэрцам, як хто можа,
працай на Тваю чэсьць, Божа!

Барані нас ад зграшэньня,
каб ня страцілі збаўленьня,
але неба ўсе дасталі —
Цябе вечна выхвалялі.

# 43. Дай, добры Божа

Беларускі духоўны сьпеўнік | Тэкст а.Я.Германовіча







Ты сьвет уладзіў на людзкую службу —
такі карысны і такі прыгожы,
каб мы, ўвайшоўшы з гэтым сьветам ў дружбу,
Цябе хвалілі, найлепшы наш Божа.

Табе малюся, Божа міласьцівы,
дай мне убачыць сьвет твой найясьнейшы —
Цябе самога і ўсе ў небе дзівы
на векі вечны, Божа наймілейшы!

Тваёю моцай і я моцны стану —
Айца і Сына і Духа Сьвятога —
Тройцу адзіну, калі ў неба гляну,
хваліці буду Стварыцеля Бога.

Будзь хвала Богу ў Тройцы ўсемагутнай
і жыватворчай, вечнай на заўсёды,
і неразьдзельнай, і адзінасутнай,
у Божай моцы знак любові, згоды.

# 44. О, мой Божа, веру Табе

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні

1. О, мой Божа, веру Табе, і ўсё веру я для Цябе.
Божа,
Ўсю надзею ў Табе маю, за ўсё Цябе выхваляю.

Ты сатварыў, Ты адкупіў,
Ты нас, Божа, і асьвяціў;
За то Табе, дзе ёсьць людзі,
чэсьць і хвала няхай будзе.

Табе, Божа, кланяюся,
на тваю волю здаюся,
а быць хачу толькі ў небе,
па ўсе вякі славіць Цябе.

Жаль мне, Божа, зграшыў Табе,
праз грэх дастаў пекла сабе;
Ды не так жаль згубы маёй,
як жаль, Божа, крыўды Тваёй!

Ах, мой Божа, я каюся,
даруй віны — папраўлюся;
Ды ўжо сто раз памерці волю
на грэх болей не дазволю.

Для Твайго ўспадабаньня
хачу спаўняць прыказаньні;
Жыць і ўміраць хачу ў Табе,
бо Ты добры сам у сабе.

О, Езусе, Збавіцелю,
мілы наш пацяшыцелю,
да рук да ног Тваіх паўшы,
каемся за грахі нашы.

Цалуючы Тваe раны,
о, Езусе наш каханы,
рукі й вочы к Табе ўзносім,
адпушчэньня грахоў просім.

Сьлёзы нашы выліваем,
шчырым сэрцам прыракаем:
пакуль будзем з людзьмі жыці,
ня будзем Богу грашыці.

О, Марыя, Маці Боска!
Ты сьвятая кветка райска!
Маліся Богу за намі,
нягоднымі грэшнікамі.

Ўсе сьвятыя, ўзгляньце з неба!
Вашай ласкі нам патрэба;
Маліцеся вы за намі,
нягоднымі грэшнікамі.

Хвала Богу праўдзіваму,
хвала ў Тройцы адзінаму,
хвала Айцу, разам Сыну,
хвала й Духу Сьвятому.

# 45. Мы хочам Бога

Мэлёдыя кс. Ф.Моро

Тэкст: Голас душы.

Мы хо-чам Бо-га, Дзе-ва Ма-ці, сваіх дзя-цей па-слу-хай зоў, мы хо-чам Бо-га пра-слаў-ля-ці, я-му ад-даць жыццё і кроў.

Прыпеў:

Ба-гаслаў-ві нас Ма-ці, ба-га-слаў-ві наш і род. Мы хочам Бо-га праслаў-ля-ці, я-го-ны вер-ны мы на-род, мы хочам Бо-га праслаў-ля-ці, я-гоны вер-ны мы на-род.

Хай будзе Бог ў сямейным коле,
Жыцьці бацькоў, дзіцячых снах,
хай будзе ён у кніжцы, школе,
У адпачынку, ў працы, днях.

Прыпеў.

Мы хочам Бога ў шчасьці, горы
загадах ўлады, кнігах праў,
на полі, горах і на моры
закон ягоны каб настаў.

Прыпеў.

Мы хочам Бога ў кожных стане,
яму пяе крывіцкі род,
работнік, селянін, мяшчане —
Наш беларускі ўвесь народ.

Прыпеў.

Мы хочам Бога ў нашым краі,
між беларускіх даўніх стрэх;
у нашай мове і звычаі
ня можа меці мейсца грэх.

Прыпеў.

Хай будзе Бог у нас заўсёды:
у час вясельля і ў сьлязах,
хвілінах бураў і нязгоды,
жыцьці спакойным, працы днях.

Прыпеў.

Мы хочам Бога: Яго права,
Яго натхненьне — наш пачын,
усё жыцьцё — Ягона слава;
Яго загад — наш кожны чын.

Прыпеў.

## 46. Хто толькі здасца

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.

Хто толь-кі здас-ца на а-пе-ку Бо-жу сьме-ла той ска-жа: ма-ю сховы ў Бо-га,
думі-ці шчы-ра ў я-го ру-кі зло-жа, зна-ці ня бу-ду ні-чо-га бла-го-га, ні-чо-га бла-го-га.

Бо ўбараніў Ён мяне ад няволі,
у злой напасьці ня згіну ніколі;
Ў цяні схавае сваіх крылаў вечна,
пад Яго вокам будзеш спаць бясьпечна.

За плячом будзеш Яго нездабытым,
як за жалезным акаваным шчытам,
будуць ня страшны трывога і стрэлы,
якія сее прыгода ў дзень белы.

Каля Цябе шмат тысяч галоў ляжа,
страшную сілу меч Божы пакажа
згуба напэўна: вачамі сваімі
помсту ўбачыш над грэшнымі ўсімі.

Ты ж май надзею у найвышэйшым троне,
што Бог ласкавы заўжды абароне:
Цябе ня чэпе благая прыгода,
к табе ня зойдзе ў тваю хату шкода.

Будуць Цябе скрозь вартаваць анелі,
дзе толькі будзеш — ў дарозе, ў пасьцелі...
На руках будуць насіць, чалавеча,
каб дзе аб камень ног не пакалечыў.

Будзеш таптаці нагою адкрытай
Зьвяроў і зьмеяў, вужак ядавітых;
На льве страшнейшым сядзеш неўзнароку
і на агромным будзеш езьдзіць цмоку.

Чуй, што Бог кажа: Хто мяне мілуе,
і маё імя хто шчыра шануе,
я таго так жа вечна не забуду,
У горы ўсялякім памагаці буду.

Выслухаць голас таго я гатовы,
як ім я ў прыгодзе, і ў мяне ён сховаў,
хай пэўны будзе, пэўны ўважэньня,
і лет старэйшых і свайго збаўленьня.

# 47. Хрысьце, бачыш маё сэрца!

Мэлёдыя народная

Тэкст: Голас душы.













Даеш гора мне з патрэбы,
Не забыў каб цноты я:
Бо у шчасьці не здалеў бы
Паважаць красу жыцьця.
Але ж крыж уеўся ў плечы,
Ланцугі ля рук, ля ног:
Ворагі паднялі мечы,
Каб паўстаці я ня мог.

О, Езусе, пасьля мукі,
Меў жа ты трыумфу час:
Разьвяжы і нам ўжо рукі,
Бо грахі зглумілі нас.
У дарозе да свабоды
Дай жа нам сьвяты Дар Твой:
Блаславі усе народы,
На збратаньне, на спакой.

# 48. Малітва да Езуса

В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні










Пад Твае ногі галаву скланяю,
рады. успамогі ад Цябе ўсклікаю.
хай твае раны будуць мне за ложа,
Езу каханы, Збаўца мой, о Божа.

О, Езу наймілейшы!

Пэўны апекі я Тваёй хай буду,
кволы, калекі хай дазнаюць цуду,
ёй вось з душою, з целам аддаюся
з ціхай сьлязою да Цябе малюся.

О, Езу наймілейшы!

О, наймілейшы, ■ маё каханьне,
найдаражэйшы скарб, нябесны Пане!
Хай пры Табе я сплю у спакоі,
мая надзея, асалод здароўя.

О, Езу наймілейшы!

Сьвятая Маці Збаўцы Бога,
як буду спаці, — сьцеражы ад злога;
Іменны патроне, ахоўца анеле,
стойце у заслоне пры душы і целе.

# 49. Божа, вячыстай дабраце адданы

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.




Цябе жадаю, Цябе вывышшаю,
больш, як дабро ўсё, Цябе ў сэрцы маю,
Дабром найбольшым Ты ў маім сумленьні,
сам адзін вышэй над усе стварэньні.

А хоць бы кары за грахі ня меў я
ад Цябе, Божа, за іх бы жалеў я;
А усе жалеў бы для таго самога,
Што загнявіў я так добрага Бога.

Вось, о мой Божа, і цяпер шкадую,
бо ўсяго болей Цябе я мілую.
І хачу шчыра так пастанавіці,
каб больш ніколі ўжо не грашыці.

Шмат маю волю шчыра спавядацца,
верна з Табою ў згодзе трымацца.
Што ўчыніўшы, я надзею маю
жыць, аглядаці Цябе, Божа, ў раю.

О, Божа, добры, Божа міласьцівы,
будзь маёй грэшнай душы літасьцівы.
Як ёй дай жыці, так дай і збаўленьне,
Помач падай нам, ратуй ад мучэньня.

# 49а. Найлепшы Божа

Найлепшы Божа на высокім небе,
Цябе ўжываем у нашай патрэбе;
Будзь нам ласкавы, прымі нашы просьбы,
дай Твае дары затрымаць пагрозы.

Хоць мы і грэшны, але Ты, о Божа,
у міласэрдзі граніц мець ня можаш.
З гэтай прычыны наймацней паважаем,
што Тваёй ласкі айцоўскай дазнаем.

Як тут на сьвеце, так і пры сканаўньні
заўсёды будзеш мець аб нас стараньне.
Ані папусьціш у моц духа злога,
што нас заўсёды цягне да благога.

За ўсе праступкі жаль у сэрцах носім,
Тваёй жа ласкі да паправы просім,
Бо нашы сілы вельмі ўжо слабыя,
хай нас спамогуць Езус і Марыя.

Будзь хвала Богу ў Тройцы Адзіному
Айцу і Сыну і Духу Сьвятому,
за ўсе праявы над намі апекі
цяпер, заўсёды і праз вечны векі.

# 50. Пад Твае прыходзім дзьверы

Мэлёдыя традыцыйная

Тэкст: Голас душы.

1. Пад Тва - е пры - хо - дзім дзьве - ры, шчы - рым сэр - цам поч - ны ве - ры, што пад ві - дам скры - ты хле - ба, Ты ёсьць Бог праў - дзі - вы зь не - ба.

Зразумець нам трудна гэта,
каб Сын Божы — Збаўца сьвету —
Аж так скрыўся ўсім на дзіва
і ў гостыі жыў праўдзіва.

Міласьць Бога заясьнела,
як зьмяніў хлеб ў сваё цела —
Нам пакінуў спажываці,
каб праз гэта нас збаўляці.

Несьмяротны, моцны Божа,
зразумець Цябе хто можа?
Ты для грэшных справядлівы
і для добрых міласьцівы.

Хоць Анёлы ў небе блізка,
прад Табою паўшы нізка,
усьцяж на твар Твой спаглядаюць,
чым ёсьць Бог аднак, ня знаюць.

Нат анёлам Бог спрадвеку
так ня даў, як чалавеку!
Прыступаць да Бога сьмела,
спажываць ягона цела.

Я таго нягодзен, Пане,
каб ва мне меў прабываньне —
Скажы толькі адно слова,
і душу мне збавіш знова.

Б'ю паклоны прад Табою,
ласку май над грэшным мною.
Хай жывы з Табою, Панам,
аж на векі вечны. Амэн.

# 52. На твар упаўшы

Мэлёдыя А.Страздзіс

Тэкст: Голас душы.

На твар у - паў - шы з мей - сца сьвя - то - га, чэсьць і ма -
літ - ву шлём мы да Бо - га з па - ко - рай ў сэр - цы,
ду - шой у - дзяч - най прад Хры - сто - вай а - хвя - рай страш - най.

Цябе мы просім, дарагі Божа,
хай Твая ласка нам дапаможа:
Дай спакой дома, а дар ў полі,
няхай зямелька родзіць даволі.

Шлём да Цябе мы просьбы, жаданьні,
даруй ў патрэбе нам зьмілаваньне.
Дай каб на сьвеце Табе служылі,
а пасьля ў небе вечна хвалілі.

Дай нам здароўе, міласьць і згоду,
а душы ў чыстцы дары свабодай.
Хай Твая ласка плыве над дарам
праз найсьвяцейшу крыжа ахвяру.

Глянь, Цябе просіць народ Твой верны,
мілы наш Езус, будзь міласэрны.
Усіх нас, Божа, ратуй ад зьдзеку,
вазьмі няшчасных ў сваю апеку.

# 53. Магутны Божа

Муз. М.Равенскага

Тэкст Н.Арсеньневай

1. Ма - гут - ны Бо - жа! Ўла - дар су - сьве - таў, вя - лі - кіх сон - цаў і сэрц ма - лых. Над Бе - ла - ру - сяй ці - хай і вет - лай, рас - сып пра - мень - ні сва - е хва - лы.

Дай спор у працы штодзеннай, шэрай,
на лусту хлеба, на родны край,
павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць — дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот!
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу і наш народ!

# 54. Божа, што калісь народы

Беларускі рэлігійны гімн

мэлёдыя Ф.Абрантовіча

Тэкст: Голас душы.

1. Бо-жа, што ка-лісь на-ро-ды на а-соб-кі па-дзя-ліў,
і хар-цей каб на-род кож-ны мо-вай род-най га-ва-рыў.
Ўзглянь та на на-род бяз-доль-ны бе-ла-рус-кі, што к Та-бе
го-лас ці-хі, пад-ня-воль-ны, у па-кор-най шле мальбе.

Асьвяці наш розум верай
і надзею ў душу ўлі,
ды агонь любові шчырай
ў сэрцах нашых запалі!
Дай, каб зярнятка прабудовы
заляцела ў кожны кут
Беларускі, каб усюды
узышло і там і тут.

Каб рунела, выплывала,
красавала, наліло
і, насьпеўшы, ў ток нямала
умалоту прынясло.
Памажы ж нам, Божа мілы,
прабудзіцца да жыцьця,
удзялі парады, сілы,
каб ня зьбіліся з пуцьця.

Дык жыві ж ты і красуйся,
наша маці, Беларусь,
да краёў чужых раўнуйся,
йсьці дзяцей к сабе прымусь.
Хай бяруцца да работы,
дом народны будаваць,
і багацяцца у цноты,
каб пасьля ім рай дастаць.

# 55. О, Божа, Збаўца наш

Муз. Л.Рагоўскага

Тэкст К.Каганца

1. О, Бо-жа, Збаўца наш Ты мі-ласьць нам па-каж,
з ня-до-лі вы-бай нас, збу-дзі Ты нас ўто раз.

Ты вочы нам адкрый
і сьвету нам пашлі —
Ты праўду нам пакаж,
о, Божа, Збаўца наш.

# 56. О, Божа, Збаўца наш

Старая брэтоньская мэлёдыя у апрацоўцы Бэнье

Тэкст К.Каганца







Ты вочы нам адкрый
і сьвету нам пашлі —
Ты праўду нам пакаж } (2 р.)
о, Божа, Збаўца наш.

# 57. Не пакідай нас

Мэлёдыя традыцыйная ў апрацоўцы К.Галкоўскага

Не па - кі - дай нас! Не па - кі - дай нас!

Fine

Е - зу, не па - кі - дай нас! Дай па - це - ху, бо мы пла - чам, бо мы ўсю - ды згу - бу ба - чым. А як прый - дзе страх тры - во - га, дай у сьлё - зах лю - біць Бо - га.

d.C. al Fine

# 58. Божа, Божа

украінская мэлёдыя ў апрацоўцы А.Стаповіча

Бо-жа, Бо-жа, Ты што зь не-ба пры-нёс ля-дзям су-па-кой.
Мі-ру мне Твай-го па-трэ-ба, —
у ду-шу мне ўлі мір Твой, у ду-шу мне ўлі мір Твой.

## 59. Славен Ты наш

народная з украінскага пагранічча

1. Хадзіў, пахадзіў месяц на небе
2. Кліча, пакліча вецяр з сабою

Славян Ты наш мілы Божа на нябёсах, на нябёсах!

1. Кліча пакліча зару з сабою
2. У Бэтлееме, дзе Хрыстус радзіўся

Славян Ты наш мілы Божа на нябёсах, на нябёсах!

1. Кліча пакліча хмары з сабою.
2. Кліча пакліча на паклон Хрысту

Славян Ты наш мілы Божа на нябёсах, на нябёсах!

# 60. Ты сьветач мой

Муз. Ч.Пудрэя

Тэкст: Божья ліра










Быў не заўсёды Твой я, не хацеў,
каб вёў мяне!
Але цяпер як страшна ноч ідзе,
вядзі мяне!
Хаця ня раз йшоў сам праз грэх і блуд
а выбач Ты, ня каяўся я тут.

Пакуль сваім цудоўным бляскам Ты
вядзеш мяне,
праз громы бур, праз страх і ноч, імглы —
найду сабе, —
Мяне вясёлкай прывітае сьвет,
калі ўвайду я на нябесны шчыт.

# 61. Багаслаўлёны

Муз. А.Стаповіча

Тэкст К.Сваяка

1. Ба-га-слаў-лё-ны, хто Бо-гу па-ве-рыў, зла-жыў на-дзе-ю ў Я-го сьвя-той во-лі. Хто не-да-...жнасьць сва-ю доб-ра зьме-рыў, ўзы-ва-е Бо-га ў до-лі ці ня-до-лі.

Прыпеў:

Збу-дзі, о Бо-жа, люд Твой падня-воль-ны, глянь на я-го-ны лёс цяж-кі на-золь-ны. Збу-дзі, о Бо-жа, люд Твой пад-ня-




Бо Яго праўда ніколі ня згіне,
А суд Ягоны дасягне няверца.
Дасьць супакой Ён сумнай бедачыне,
дасьць асалоду скрыўджанаму сэрцу.

Прыпеў:

Збудзі, о Божа, люд Твой паднявольны,
глянь на Ягоны лёс цяжкі, мазольны! 2 разы

го хва- ялі, дык Бо- га ты свай- го хва- лі!

О, Божа, моцны, у ласках бязьмежны
на нашу крыўду паглядзі.
Дай, каб народ наш ужо быў незалежны,
наш край да шчасьця прывядзі.

Каб незалежнай сваёю краінай
хваліць Цябе мог беларус,
каб справядлівай ішоў каляінай
далёкі ад ўсіх злых спакус.

Муз. Арлоўскага, апрацоўка А.Стэповіча

# 63. Расстаўся з намі

Тэкст Ул.Казлоўшчыка

Рас-стаў-ся з на-мі ты на ве-кі З су-мам у-да-рыў цяж-кі звон

цяжкі звон

На на-бо-ле-лыя па-ве-кі залёг непра-буд-ны і вечны сон

А-ле Твой дух жы-ве між нас

Твой дух між нас

і дасць нам моц ўзмагання час.

Fine

дасць нам моц

А-ле твой дух жы-ве між нас

і дасць нам моц ўзма-гання той час.

*pp*

Хай су-па-кой вечны ён атры-ма-е наша прось-ба да не-ба пльі-ве

Па-мяць аб ім што ў народзе трыва-е ў сэр-цах на-ших ня-хай а-жы-ве.

Паўтарыць ад ⊙ да Fine

# Камэнтар

1. **Нарадзіўся, нам зьявіўся.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная, запісаў Мёдушэўскі. Тэкст: *Голас душы. Рым,1949. с.220.* Гарманізаваў Ул.Неўдах. Аналёгіі мэлёдыі: *Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцельны.1980,№67.*

2. **Пастушкі спалі.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная. Тэкст: Голас душы. с.223. Апрацаваў Ул.Неўдах.

3. **Вечны родзіцца.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная, запісаў Мёдушэўскі. Тэкст: Голас душы. с.214. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

4. **У начную ціш.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная. Тэкст: Голас душы. с.219. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

5. **Паказалась з неба.** — Мэлёдыя і тэкст са сьпеўніка *В.Гожэльнярскага Касьцельныя песьні. Петраград, 1917.* Гарманізаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.215.

6. **Анёл сказаў пастушкам.** — Мэлёдыя традыцыйная. Тэкст: Голас душы. с.216. Гарманізаваў А.Клімовіч. Партытура: *Беларускі духоўны сьпеўнік. Вільня—Лёндан, 1980—1989.*

7. **Неба і зямля.** — Мэлёдыя традыцыйная. Гарманізаваў М.Куліковіч-Шчаглоў. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

8. **Зямля і неба.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная. Тэкст: Голас душы. с.217. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Аналёгіі мэлёдыі: *Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцельны. №32.*

9. **Нова радасьць стала.** — Мэлёдыя традыцыйная з нотаў А.Архім.Я.Строка. Тэкст народны. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

10. **Нова радасьць.** — Мэлёдыя традыцыйная з нотаў А.П.Татарыновіча. Тэкст народны, апрацаваў Г.Піхура. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

11. **А ў сьвеце нам.** — Мэлёдыя традыцыйная з нотаў М.Равенскага. Тэкст: Калядоўшчыкі. Кліўлянд,1961. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

12. **А учора з вячора.** — Мэлёдыя традыцыйная з нотаў А.Прат.Я.Абабуркі. Тэкст народны. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

13. **Учора з вячора.** — Мэлёдыя традыцыйная. Гарманізаваў М.Куліковіч-Шчаглоў. Тэкст: *Калядоўшчыкі. Кліўлянд,1961.* Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

14. **На Ярдане.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: Народная, апрацоўка К.Галкоўскага.

15. **Нарадзіўся.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага. Тэкст: Голас душы. с.225.

16. **Бог нарадзіўся.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага.

17. **Езу, Божа міласэрны.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцельныя песьні. Апрацаваў Ул.Неўдах. Варыянт тэксту: Голас душы. с.236. Аналёгіі мэлёдыі: Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцёльны. №69.

18. **Сьвяты крыжу.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя з Грэгарыянскага харалу, запісаў А.Клімовіч. Тэкст: Голас душы. с.231. Апрацаваў Ул.Неўдах. Аналёгіі мэлёдыі: Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцельны. №69.

19. **На крыж прыбіты.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя з Клюшчанаў, запісаў А.Клімовіч. Тэкст: Голас душы. с.235. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік. Тэкст: Голас душы. Апрацоўка А.Клімовіча.

20. **Ойча, Божа усемагутны.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя з Клюшчанаў, запісаў А.Клімовіч. Тэкст: пераклаў кс.Ул.Чарняўскі. Апрацаваў Ул.Неўдах. Аналёгіі мэлёдыі: Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцёльны. №86.

21. **Пабожным сэрцам.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя з Вільні, запісаў А.Клімовіч. Тэкст: Голас душы. с.229. Апрацаваў Ул.Неўдах.

22. **Гародзе аліўны.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыю запісаў Медушэўскі. Аналёгіі мэлёдыі і тэксту: Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцёльны. №80. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

23. **Гародзе аліўны.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: запісаў Язэп Няўяліс. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

24. **Ах, мой Езу.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя з Вільні, запісаў А.К. Апрацаваў Ул.Неўдах.

25. **Радуймася Хрысьціяне.** — Тэкст і мэлёдыя: В.Гожальнярскі. Касьцельныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.253.

25a. ***Другі тэкст на тую ж мэлёдыю*** — «Вясёлы дзень»: Голас душы. с.251.

26. **Альлелюя.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: тэкст Ул.Казлоўшчыка, музыка А.Хлёндоўскага.

**27. Перастаньма сумаваці.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: тэкст Ул.Казлоўшчыка, мэлёдыя традыцыйная, апрацаваў А.Хлёндоўскі.

**28. На Божае цела.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцельныя песьні. Апрацаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.254.

**29. Чэсьць твая, хвала.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцельныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

**30. О, Марыя, Маці Бога.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцельныя песьні. Апрацаваў В.Гожэльнярскі. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**31. Уладарка ласкі.** — З нотаў кс. Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная. Тэкст: Голас душы. с.266. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік. У варыянце А.П.Татарыновіча з тэкстам: Божым шляхам. Рым. с.151.

**32. Вітай, Марыя.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцельныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.258. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік; *Бог з намі. Вільня, 1915.* Мэлёдыя традыцыйная, апрацаваў А.Клімковіч.

**33. Вітай, Марыя.** — Мэлёдыя традыцыйная, апрацаваў М.Куліковіч-Шчаглоў. Тэкст: Бог з намі. Вільня, 1915. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**34. Матачка Божая.** — Мэлёдыя кс.арх.Ф.Абрантовіча, апрацаваў М.Куліковіч-Шчаглоў. Тэкст: Голас душы. Варыянт мэлёдыі: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні.

**35. Дазволь Маці.** — Мэлёдыя традыцыйная, апрацаваў А.Клімовіч. Тэкст: Голас душы. с.259. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**36. Ад зарніцы.** — Музыка традыцыйная з нотаў А.П.Татарыновіча. Тэкст: Голас душы. с.267. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**37. Вострабрамска Маці Божа.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.261. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік. Апрацаваў В.Гожэльнярскі.

**38. Песьня да Ружанцовай Маці Божай.** — Мэлёдыя традыцыйная. Тэкст пераклалі М.Знавасёлак і М.Янішкевіч. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

**39. Ты найсьвяцейша.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: тэкст Ул.Казлоўшчыка, музыка А.Мацюка.

**40. Песьня да найсьвяцейшага сэрца Езуса.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.202.

**41. Песьня ранішняя.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Апрацаваў Ул.Неўдах.

**41а.** ***Другі тэкст на тую ж мэлёдыю:*** Песьня пры працы//Голас душы. с.203.

**42. Песьня вячэрняя.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.204.

**43. Дай, добры Божа.** — Тэкст: *Божым шляхам. (Лёндан),1967,* словы а.Я.Германовіча, апрацаваў Г.Піхура, рэдакцыя Ул.Неўдаха. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**44. О, мой Божа.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Апрацаваў Ул.Неўдах. Тэкст таксама: Голас душы. с.282. Зьмешчана: Беларускі духоўным сьпеўнік.

**45. Мы хочам Бога.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя кс.Ф.Моро. Тэкст: Голас душы. с.284. Апрацаваў Ул.Неўдах.

**46. Хто толькі здасца.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыю запісаў Мёдушэўскі. Тэкст: Голас душы. с.281. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Аналёгіі мэлёдыі: Кс.Я.Седлецкі. Сьпеўнік касьцёльны. №364.

**47. Хрысьце, бачыш маё сэрца.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя з Галіцкай Украіны. Тэкст: Голас душы. с.288. Гарманізаваў Ул.Неўдах. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік. Апрацаваў А.Клімовіч.

**48. Малітва да Езуса.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

**49. Божа, вячыстай дабраце адданы.** — З нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная, запісаў В.Гожэльнярскі. Тэкст: Голас душы. с.205. Гарманізаваў Ул.Неўдах.

**49а. Найлепшы Божа.** — Мэлёдыя і тэкст: В.Гожэльнярскі. Касьцёльныя песьні. Мэлёдыі супадаюць.

**50. Пад Твае прыходзім дзьверы.** — З нотаў кс. Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная. Тэкст: Голас душы. с.208. Апрацаваў Ул.Неўдах. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік. Тэкст: Вучыся і маліся. Вільня,1944. Апрацаваў К.Галкоўскі.

**51. Ледзь узыйдзе зараніца.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: музыка Ст.Казуры.

**52. На твар упаўшы.** — Мэлёдыя А.Страздэліса, гарманізаваў К.Галкоўскі. Тэкст: Голас душы. Вільня, 1926. Тлумачыў а.Я.Гэрмановіч. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**53. Магутны Божа.** — Музыка М.Равенскага, словы Н.Арсеньневай. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**54. Божа, што калісь народы.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: Беларускі рэлігійны гімн. Харал. Мэлёдыя Ф.Абрантовіча, гарманізаваў К.Галкоўскі. Рэдакцыя Ул.Неўдаха. Зьмешчана: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**55. О, Божа, збаўца наш.** — Музыка Л.Рагоўскага, словы К.Каганца. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік. Рэдакцыя Ул. Неўдаха. Тэкст таксама: Голас душы. с.288.

**56. О, Божа, збаўца наш.** — Старая брэтонская мэлёдыя у апрацоўцы Бэньe, словы К.Каганца. Тэкст таксама: Голас душы. с.288. Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**57. Не пакідай нас, Езу.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: мэлёдыя традыцыйная, з Клёшчанаў, гарманізаваў К.Галкоўскі.

**58. Божа, Божа.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: з украінскага, апрацаваў А.Стаповіч.

**59. Славен Ты, наш.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: народная, з украінскага пагранічча.

**60. Ты сьветач мой.** — Музыка Ч.Пудрэя. Тэкст: *Божья ліра. Вільня,1915.* Партытура і тэкст: Беларускі духоўны сьпеўнік.

**61. Багаслаўлены.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: музыка А.Стаповіча, тэкст К.Сваяка.

**62. Усё славіць Бога.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: музыка Л.Бэтховэна, тэкст Ул.Казлоўшчыка.

**63. Расстаўся з намі.** — Партытура з нотаў кс.Ул.Чарняўскага: музыка Арлоўскага, апрацоўка А.Стаповіча, словы Ул.Казлоўшчыка.

# ЗЬМЕСТ

